№ 33. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 33 (125). Год II. Вільня, 24 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## КІЕУ (П.Т.А.). Украінскі нацыянальны конгрэсс выказауся за расейскую фэдэрацыйную рэспубліку і за аутономію Украіны.

### 23 красавіка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Між Лёс і чыгункай Аррас-Камбрэ трывае артылерыйская бітва. Пасьля барабаннаго агня сягоньня раніцай пачаліся пешые бітвы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Эн і ў Шампані артылерыя з абодвых бакоў фронту узмацавала свой агонь. Француские атакі былі адбіты. Мы ўзялі 50 палонных.

---

Нашы лятуны збілі ў ворагоў 4 лятучые шары і 11 самалётаў.

Ріхтгофэн збіў свайго 46-го ворага, Вольфф — 20-го. Лятучая эскадра Ріхтгофэна збіла свайго сотнаго ворага.

**Усходні тэатр:**

Шмат дзе востры агонь расейскай артылерыі, на каторы мы энэргічна адказывалі.

На налёт расейскіх лятуноў каля Ліды мы адказалі налётамі на Маладэчну і Турэц (на паўночным заходзі і на палудзенным заходзі ад Мінска).

*Македонскі фронт*: На Вардары і каля возера Дойран вострая артылерыйская бітва. Адбіваючы англіцкую атаку боўгарскімі вайскамі, выступала наша лятучая эскадра.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Рада работнікоў і салдатоў пастанавіла сьвяткаваць дзень 1 мая па ўсей Расеі паводлуг новаго стылю. Будуць організованы работніцкіе дэмонстрації, якіх Расея дагэтуль не бачыла. Каб не спынілася ваенная работа, работнікі пастанавілі замест 1 мая адпрацаваць нядзелю, 29 красавіка.

БУХАРА (П.Т.А.). Пад націскам рэволюціі ў Расеі эмір Бухарскі апублікаваў заяву, сулячы свайму краю ўнутрэные рэформы.

ВЕНА. Паводлуг дайшоўшых сюды ведамасьцей, усе войскі ў Расеі, апрыч пецярбурскаго гарнізону, адмовіліся даць прысягу тымчасоваму ураду. Гэта пастанова зроблена паводлуг думкі рады работнікоў і салдатоў.

КОПЭНГАГА. Гасударственая дума атрымала вестку, што ў Пецярбурзі наладжэны дзьве вялікіе організації дзеля таго, каб вярнуць стары лад.

ЖЭНЕВА. Адмірал Колчак, б. начальнік Чорнаморскаго флоту, назначэн главнакамандуючым Балтыцкаго флоту.

БЭРН. На астраві Ксантэ французы скінулі грэцкі каралеўскі урад і аддалі ўласць староннікам Вэнізэлоса.

ЖЭНЕВА. На нарадзі саюзьнікоў у Жан дэ Мор'ен разгледалі пытаньне аб міры. Поўофіцыовнае апавешчэньне кажэ, што саюзьнікі ведаюць, што справа міру, паднятая неутральнай Скандынавіей, выплыла з Вены. На нарадзі ішла гутарка аб компэнсаціях, якіе саюзьнікі павінны атрымаць за свае ахвяры на вайне. Пасьля нарада занялася справай Грэціі. Як пішуць парыжскіе газэты, пастаноўлено выступіць у Афінах без ніякіх цэрэмоній.

---

*Вільня, 24 красавіка.*

Сучасные здарэньня даюць яркі доказ таго, што ў жыцьці народаў маюць вагу толькі організованые массы. Пакуль массы гэтые не дайшлі сьвядомасьці сваей сілы і сваіх патрэб, іх лёгка дзержаць у няволі, абертаць у скаціну рабочую; але с таго момэнту, калі яны пазналі сваю крыўду і пазналі прычыну свайго рабскаго палажэньня, перад імі адкрываецца дарога да новаго жыцьця. Толькі, каб пайсьці па гэтай дарозі, паадзінокіе жаданьня асобных людзей павінны зліцца ў адно магутнае жаданьне волі і павясьці нялічэную армію раскінутых на вялікіх абшарах гаротнікоў да аднэй, супольнай для ўсяго рабочаго народу мэты.

Організація—вось першая ступень, каторая вядзе грамады працоўнаго люду да лепшай долі.

Даволі глянуць навакол сябе, даволі паўзірацца хацябы на палажэньне работнікоў у Нямеччыне, дзе работніцкіе партіі і саюзы маюць мільёны членоў, каб пэраканацца, што ў Заходняй Эўропе работнікі стаяць шмат вышэй за нашых толькі дзякуючы сваей організованасьці. Толькі як організованая сіла яны здабываюць там для сябе лепшые варункі працы і быту, здабываюць належнае мейсцо ў дзержаўным жыцьці, становячы, напрыклад, у нямецкім парлямэнці самую чысьленую партыю, с каторай усе павінны вельмі сур'ёзна лічыцца. І нельга сумлевацца, што, пры спаўненьні апавешчэных нямецкім Імператарам і урадам рэформ у дзержаўным жыцьці Нямеччыны, голас работнікоў займець найбольш выдатнае месцо.

Агледаючыся на работніцкіе массы ў нашым Краю і ў сталічным месьці яго, мы бачым, што нашым работнікам далёка йшчэ да таго, чаго дайшлі іх таварышы ў суседняй заходняй дзержаве. Толькі у апошніе перад вайной гады, калі сьляды страшэннай рэакціі, запанаваўшай па ўсей Расейскай дзержаве пасьля 1905 году, сталі знікаць, пачалася між нашымі работнікамі больш энэргічная організацыйная работа. Яна апіралася главным чынам на організаціях прафэсыональных, але ваенные прыпадкі і звязаны з імі агульны разгром прамышленаго жыцьця ў нашым Краю застали іх з вельмі агранічэным чыслом членоў і, што з гэтаго вынікло, с пустымі кассамі... Ешчэ крыху лепш былі організованы работнікі жыды, больш прывыкшые да супольнай грамадзкай работы. Але работнікі хрысьціяне, між каторымі гэтак многа эмігрантоў з вёскі, слаба пасьпевалі за імі. І толькі цяперашніе цяжкіе часы прымусілі іх больш гуртавацца і супольнымі сіламі змагацца с цяжарамі ваеннаго ліхалецьця.

Цяжкая гэта навука, каторая нашым работнікам расчыняе цяпер вочы, паказваючы ім, што толькі ў еднасьці—сіла. Але нічога дарма на сьвеці не даецца, і за ўсе беды вайны рабочы народ у нашым Краю мае адну карысць: ён зразумеў патрэбу організації. І гэта — тым болей на часі, што набліжаецца момэнт міра, а з ім— новае жыцьцё, ў каторым не велеможные паны і багатыры, а народные массы — мільённые грамады работнікоў і селян — будуць кіраваць сваей доляй і доляй сваей старонкі.

Вось, да гэтаго і павінны ўжо ў нас прыгатаўляцца рабочые массы. Калі ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны праб'ець гадзіна прыходу новай будучыны, ўсе тые, хто дагэтуль быў пазбаўлен усеякіх правоў, усе, хто крывавай працай здабывае кусок чорнаго хлеба для сябе, а нялічэнае багацьце — для другіх, павінны ўстаць дружна, як сьцена, моцным, важкім голасам — вустамі сваіх найлепшых людзей — сказаць, чаго трэба нашаму народу, і павагай гэтаго голасу мільёнаў пакіраваць жыцьцё Краю ў новае русло.

---

## Два дакумэнты.

Ворагі нашаго народу і Краю, каторые хацелі-бы задушыць усе праявы самабытнасьці яго, каб пасьля безраздзельна запанаваць над ім, стараюцца перад усім сьветам давясьці, быццым наша Бацькаўшчына не мае ніякіх палітычных ідэалоў, ніякога жаданьня вызваленьня. У гэтым ім многа памагаюць нацыоналісты розных нацыональнасьцей Краю, каторые ўжо цяпер думаюць не аб Краю, а аб тым, як забаспечыць у ім перэвагу і панаваньне толькі для сваей націі. Але ў шырокіх дэмократычных массах, якіе становяць аснову ўсяго краёваго жыцьця, йдзе зусім іншы рух: яркую праяву яго становіць надрукаваная ў тым нумэры „Гомана" адозва Соцыал-дэмократычнай Партыі Літвы, да якой прыналежаць работнікі беларусы, літвіны, палякі.

Ды гэта — ня першы грамадзкі голас, які высказывае нашы палітычные ідэалы. Больш году таму назад — ешчэ пад той час, калі ў нас не было прэссы, дэмократычные элемэнты беларускаго, літоўскаго, польскаго і жыдоўскаго грамадзянства публічна заявілі аб сваім палітычным стано-

рыйскаго агня пачаліся паабедзіновые вострые атакі, каторые адбіты.

---

У апошніе дні ў бітвах на паветры і агнём з зямлі знішчэны 10 самалётаў ворагоў.

**Усходні тэатр:**

Нічога выдатнаго.

22.IV. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У нескольвіх пунктах на фронце у Фляндрыі і Артуа артылерыйская бітва крапчэла. На поўначы ад Скарп агонь дайшоў найвышэйшай сілы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На Эн і ў Шампані — слабая баевая работа. Пры Бэррі-о-Бак мы ўзарвалі французскі блёкгаўз.

---

Ворагі утрацілі 6 самалётаў, у тым ліку 5 скінуты эскадрай лятуноў ф. Ріхтгофэна.

Над Н'юпортам знішчэн у ворагоў лятучы карабель.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 21. IV. **Італьянскі тэатр:** На паўночным заходзі ад Арс'еро мы ўзялі ў палон 1 афіцэра і 30 салдатоў.

ВЕНА. 22.IV. **Італьянскі тэатр:** У ваколіцах Трох Вяршын узяты ў палон 1 афіцэр і 75 салдатоў, здабыты 2 кулемёты.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

КОПЭНГАГА. «Socialdemokraten» пішэ:

Ходзяць чуткі ў конкрэтнай формі, што між Нямеччынай і Англіей ідуць перэгаворы аб міры.

СОФІЯ. (В. Т. Б.). Боўгарскае тэлеграфнае агенцтво даносіць:

„Боўгарскі народ вітае нарадзіны новай Расеі. Боўгарыя аб'явіла вайну не расейскаму народу, а царскаму ураду".

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Імператар паслаў на імя Насьледніка тэлеграму с падзякай войску, пабедна адбіўшаму французскіе штурмы на Эн і ў Шампані, і высказаў цьвёрдую пастанову давясьці вайну за быт да пабеднаго канца.

БЭРЛІН. (Б.Т.Б.). Як даносяць ад 13 да 18 красавіка, ізноў затоплено ў Англіцкім канале, Атлянтыцкім акіяні і Паўночным моры варожых і нэутральных караблёў агулам на 93.000 тонн ёмкасьцю.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 14 красавіка на заходзі ад Александрыі нашай падводнай лодкай цяжка папсован англіцкі малы крэйсэр. Можна даволі пэўна думаць, што ён затануў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). З апошняй экспэдыціі нашых падводных лодак да берагоў Англіі не вярнуліся нашы мінаносцы Г 85 і Г 42. Трэба думаць, што яны пагіблі.

ГАННОВЭР. Газэты за насьледніка памершаго гэнэрал-губэрнатара Бэльгіі, Біесінга, лічаць генэрала ф. Фалькенгаўзэна.

---

## Вайна замірае.

БЭРЛІН Камісія Рэйхстагу дзеля гандлю і прамышленнасьці на апошнім заседаньні занялася справай экономічнай дэмобілізацыі і пераходу з ваеннаго стану да мірнаго.

ТУРЫН. «Stampa» пішэ, што англіцкі прэм'ер-міністэр загаварыў аб спадзеваным міры, кажучы, што насьпеваюць і шыбка наближаюцца важные здарэньня.

ЖЭНЭВА У Парыжы наладжэн камітэт дзеля будовы Палацу Міра у Остэндзі. Папеж ахвяраваў на гэта 100.000 франкоў.

КОПЭНГАГА. «Socialdemokraten» друкуе пагляд французскаго міністра Тома на магчымасць сустрэчы французскіх социалістоў з нямецкімі ў Штокгольмі на социалістычнай конфэрэнціі, на якой будуць разгледаць справу міра. Міжнародная еднасць (інтэрнацыонал) адновіцца мацнейша, чым калі колечы, і будзе апірацца на нацыональные адзінкі.

МАНЧЭСТЭР. На з'ездзі англіцкай социалістычнай партыі пастаноўлено дабіцца у правіцельства, каб увесь народ падаў свой голас, ці ён хоча пачаць перэгаворы аб міры.

БЭРН. Боўгарскі пасол сказаў карэспандэнту «Tageblatt» аб ваенных мэтах Боўгарыі:

„Мы жадаем Македоніі, Добруджы і даліны Моравы, як боўгарскіх зямель, каб выпаўніць ідэал усіх боўгароў: збудаваць з'еднаяную, незалежную, дэмократычную Боўгарыю".

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі прэзыдэнт міністроў, князь Львов, сказаў карэспандэнту «Русск. Сл.», што можна напэўна спадзевацца міра ў гэтым гаду.

БЭРН. «Populaire du Centre» пішэ, што трэба радосна вітаць факт гутарак аб міры і аб варунках міру.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.